 

# ВЕНСКАЯ СУСТРЭЧА

Вестка аб гэтай сустрэчы аказалася нечаканасцю. Прэзідэнт Злучаных Штатаў, Джон Кенедзі, лічыў, што кожная сустрэча на вышэйшым узроўні павінна быць папярэджана доўгім перыядам падрыхтоўкі. Тым часам мы нічога не чулі аб падрыхтоўцы, а даведаліся толькі, што прэзідэнт Кенедзі змяніў свой погляд і сам папрасіў прэм'ера Савецкага Саюза, Хрушчова, каб наладзіць сустрэчу ў Вене. І так два дні — 3 і 4 чэрвеня 1961 года — войдуць у гісторыю дыпламацыі, як важныя падзеі ў міжнародных адносінах. Гэта ж першы афіцыйны кантакт кіраўнікоў двух самых вялікіх дзяржаў пасля няўдачнай сустрэчы вялікай чацьвёркі ў маі 1959 года, якую падарваў тагачасны амерыканскі ўрад.

Узнікае, аднак, пытанне, што штурхнула прэзідэнта ЗША папрасіць прэм'ера Хрушчова на непасрэдную размову. Наогул грамадская думка згодна ў тым, што гэтае спатканне надта ж патрэбнае амерыканскім палітыкам, каб ратаваць сільна пахіснуты прэстыж новай дэмакратычнай адміністрацыі. Дагэтуль Кенедзі нічога не зрабіў, каб павысіць прэстыж Злучаных Штатаў у вачах радавога амерыканца. Унутраная сітуацыя не палепшылася. Злучаным Штатам пагражае ў гэтым годзе плацежны дэфіцыт, які складае каля трох з паловай мільярдаў долараў. Нягледзячы на свае абяцанні, Кенедзі не зліквідаваў беспрацоўя. Больш таго, ён дамагаецца ад Кангрэсу павелічэння крэдытаў на далейшыя ўзбраенні і паскарэнне праграмы будовы вялікіх ракет.

Таксама на міжнароднай арэне прэстыж Злучаных Штатаў шмат пацярпеў. Няўдачная інтэрвенцыя на Кубе выставіла на пасмешышча не толькі амерыканскую разведку, але таксама пашкодзіла цэлай адміністрацыі, прымаючай непасрэдны ўдзел у гэтай авантуры. І ўрэшце апошнія дасягненні Савецкага Саюза ў космасе — кругаземскі лёт маёра Гагарына — усведамілі палітыкаў і народы ўсяго свету, якую вялікую перавагу ў гэтай дзялянцы мае Савецкі Саюз над Злучанымі Штатамі.

Вось гэтае пагоршанне пазіцыі Злучаных Штатаў у свеце, іх незайздросную сітуацыю ў спаборніцтве з Савецкім Саюзам прэзідэнт Кенедзі выкарыстаў адпаведным чынам. У абнародаваным нядаўна пасланні аб сітуацыі дзяржавы заклікае ён грамадзян у ЗША да «завастрэння барацьбы з камунізмам», да «супраціўлення націску з Усходу». Як адзначае друк, гэтае пасланне прыпамінае выступленні Даллеса.

Трэба, аднак, памятаць, што гэтыя вострыя словы прэзідэнта ЗША былі спробай прыкрыцця ўласнай слабасці. Яна ж і прымусіла Кенедзі клапатаць аб наладжанне венскай сустрэчы.

Не падлягае сумненню, што гэтае спатканне будзе мець сур'ёзнае значэнне для ўсяго свету. Жывім надзею, што яно запачаткуе серыю размоў на вышэйшым узроўні, якія 2 гады тэму былі падарваны імперыялістычнымі коламі Захаду. Усе чакаюць, што з наддунайскай сталіцы павее мірам і духам разумнага суіснавання.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

ВЕСТКІ БССР

# 3,5 цэнтнера свініны ў суткі

**(Гутарка свінаркі саўгаса «Сланімскі», Гродненскай вобласці, Анны Ракуць).**

Вось ужо чатыры гады, як я працую ў саўгасе свінаркай. Спачатку даводзілася цяжка працаваць: не хапала вопыту, добрых памяшканняў і кармоў. Зусім інакш пайшлі справы на ферме, калі ў свінарніку з'явілася новае абсталяванне, падвесная дарога, былі разабраны перагародкі і станкі. Свінні былі пераведзены на груповае бесстаночнае ўтрыманне. У тых жа самых памяшканнях мы размясцілі ў пяць разоў больш жывёлы, чым раней. Я ж павінна была толькі задбаць аб адкормачнае пагалоўе.

Спярша я адкармлівала 80 галоў свінней. Пераход на групавы метад гадоўлі падсунуў мне думку, што можна адной адкармліваць не 80, а 150 свінней і больш. Я падзялілася гэтымі думкамі з зоатэхнікам і дырэктарам саўгаса. Яны станоўча ацанілі маю прапанову. І ў 1958 годзе я адкармлівала 160 свінней і магла даць дзяржаве 170 цэнтнераў мяса. У першым годзе сямігодкі я адкарміла ўжо 507 свінней. Гэта быў высокі паказчык у раёне. Калі я даведалася, што на Украіне Яраслаў Чыж адкармлівае значна больш чым я, тады ўзяла абавязацельства адкарміць за год 1100 свінней. Сваё слова я стрымала. На працягу 1960 года адкарміла 1273 галоў агульнай вагай у 1 284 цэнтнера. Гэта складае па 3,5 цэнтнера ў суткі.

Якім чынам я арганізавала сваю работу? Усіх адкормачнікаў я разбіваю на некалькі груп у залежнасці ад узросту і вагі. Для кожнай групы разам з зоатэхнікам складаю спецыяльны рацыён. Кармленне свінней адбываецца тры разы ў дзень, у строга ўстаноўлены час. На працягу ўсяго адкорму рацыён дзялю на два перыяды. У першым перыядзе парасяты вагаю ад 25 да 50 кг атрымоўваюць штодня 1,5 кг канцэнтрыраванага корму, 2 кг бульбы і 3 кг зялёнай масы. У часе другога перыяду адкормачнікам вагаю ад 50 да 100—110 кг даецца 2 кг канцэнтрыраванага корму, 3 кг бульбы і 5 кг зялёнай масы. З мінеральнай падкормкі на адну галаву ў суткі прыпадае 20 грамаў солі і 300 грамаў мелу.

Пасля кожнага кармлення трэба абавязкова паіць свінней. Свежую чыстую ваду яны ахвотна п'юць і пасля сухіх кармоў і пасля мешанін.

Па прыкладу перадавых жывёлагадоўцаў я скармліваю канцэнтраты сухімі а бульбу і коранеплоды ў няскрышаным, сырым выглядзе. Дзякуючы гэтаму больш эканоміцца час і адкормачнікі шпарчэй прыбываюць на вазе.

У мінулую зіму я пачала ўпершыню даваць свінням зялёную падкормку — хваёвыя лапкі. Спачатку мы іх крышылі, а пасля прыйшлі да вываду, што іх можна скармліваць непакрышанымі. Свінні іх ахвотна з'ядаюць у такім выглядзе. Вітамінная падкормка павышае апетыт жывёлы і спрыяе іх шпарчэйшаму адкорму.

Летам мы атрымоўваем больш танную свініну. Справа ў тым, што ў асноўным у гэты час свінні харчуюцца травой. Спецыяльна для жывёлы ў саўгасе створаны зялёны канвеер, у які ўваходзіць жыта, канюшына, кукуруза, віка — аўсяная мешаніна, кармавы лубін. За суткі, у летнія месяцы, на кожнага адкормачніка расходуецца толькі паўтара кілаграма канцэнтратаў. Прырост жа на вазе ў кожнай жывёлы складае штодня 550—600 грамаў.

1960 год назаўсёды застанецца ў маёй памяці. Быў сакавіцкі вечар. Радыё прыносіць радасную вестку: за поспехі ў працы мяне ўзнагародзілі ордэнам Леніна. Гэта натхняла мяне на новыя працоўныя подзвігі.

З такім жа поспехам працуюць усе нашыя свінаркі. Вынікі працы за 2 гады гавораць, што сямігадовы план па вырабу мяса выканаем датэрмінова.



Ад 12 мая да 4 чэрвеня г. г. праводзіўся ў Чэхаславакіі традыцыйны музычны фестываль «Пражская вясна». На здымку: вядомы французскі віяланчэліст, Андрэ Навара (справа), складае віншаванні савецкай артыстцы, Наталіі Гутман, лаўрэатцы І узнагароды ў конкурсе віяланчэлістаў. Злева — Міхась Забэйда — Суміцкі, вядомы беларускі спявак, які стала жыве ў Празе.




Кузняцоў «адступае» з немцамі ў Львоў. А тымчасам у Роўна шукае яго гестапа. Яно арыштоўвае Валю Доўгер і намагаецца дабіцца ад яе, дзе знаходзіцца Кузняцоў.

### ВЫ ДОКТАР БАУЭР?

Па Львове пранеслася вестка аб забойстве Бауэра і Шнайдэра. Перадавалі, што раніцай, калі віцэ-губернатар у суправаджэнні Шнайдэра збіраўся выязджаць з дому, каля яго асабняка затрымалася машына, з якой вышаў чалавек у форме гауптмана. Ён спакойна наблізіўся да Бауэра і Шнайдэра і спытаў іх прозвішчы. Атрымаўшы адказ, ён са словамі: «Вы мне і патрэбны», — некалькімі выстраламі забіў абоіх, пасля чаго ўскочыў у машыну і скрыўся.

Загадковы гаўптман быў у цэнтры ўвагі. Для ўсіх заставалася загадкай, навошта спатрэбілася гэтаму смельчаку пытаць у віцэ-губернатара прозвішча. Чуткі, якія насіліся па гораду, раскрывалі ўсё новыя і новыя падрабязнасці.

А адбылося гэта так. Вечарам у тэатры, дзе праводзілася нарада нямецкай адміністрацыі Галіцыі, Кузняцоў, які прабраўся туды, меў намер застрэліць губернатара Вехтэра, але не змог наблізіцца да прэзідыума. Дачакаўшыся заканчэння нарады, ён вышаў з тэатра і пачаў чакаць на вуліцы. Губернатар і яго намеснік селі кожны ў сваю машыну. Не ведаючы, хто з іх Бауэр і хто Вехтэр, Кузняцоў паехаў наўгад следам за адным з іх. Машына гітлераўца спынілася каля музея імя Івана Франко. Насупраць музея быў асабняк уласніка машыны. Кузняцоў прыкмеціў месца і ад'ехаў.

На наступны дзень «опель» Кузняцова, праязджаючы побач музея імя Франко, нечакана «сапсаваўся». Белаў вышаў з машыны і пачаў капацца ў маторы. Кузняцоў таксама вышаў. Ён бачыў, як на супрацьлеглым баку да асабняка падкаціў камфартабельны аўтамабіль.

У дзесяць гадзін з асабняка вышлі двое. Шофер выскачыў з машыны і ўслужліва адкрыў дзверцы.

Але ў гэтую мінуту да іх падышоў Кузняцоў.

— Вы доктар Бауэр?

— Так, я Бауэр.

— Вось вы мне і патрэбны!

Некалькімі выстраламі ён забіў Бауэра і яго спадарожніка. Затым кінуўся да сваёй машыны. Пакуль ён бег, Камінскі і Белаў адкрылі агонь па вартаўніку, які стаяў ля асабняка.

Машына панеслася па вуліцах Львова за горад.

«Газета Львіўска» змясціла некралог толькі трынаццатага лютага, на чацвёрты дзень пасля забойства. Ён быў падпісаны губернатарам Галіцыі, Вехтэрам. Некралог пачынаўся так:

«9 лютага 1944 года віцэ - губернатар д-р Ото Бауэр, шэф ураду дыстрыкта Галіцыя, паў ахвярай бальшавіцкага нападу. Разам з ім памёр яго самы блізкі супрацоўнік, выпрабаваны і заслужаны начальнік канцылярыі прэзідыума губернатарства дыстрыкта Галіцыя, ляндгерыхстрат, д-р Гейнрых Шнайдэр. Яны загінулі за фюрэра і імперыю».

### АДЗІНАЕ ВЫЙСЦЕ

Васемнаццаць кіламетраў ад Львова, у вёсцы Куровіца, чорны «опель - адмірал» быў затрыманы пікетам фельджандармерыі.

Хударлявы маёр доўга разгледжваў дакументы, працягненыя яму праз акенца машыны.

— Гер гаўптман, — сказаў ён заклапочана і быццам перапрашаючы, — мне давядзецца папрасіць у вас дадатковых дакументаў.

Кузняцоў пачырванеў. Рэзкім рухам працягнуў ён авальны жэтон са свастыкай і нумарам.

— Мо' гэтага з вас дастаткова?

— Не, — сказаў маёр, — я прашу дадатковых пасведчанняў.

Было ясна, што ён папярэджаны.

Намагаючыся быць спакойным, Кузняцоў схапіў аўтамат, даў чэргу. Маёр упаў. За ім паваліліся на зямлю яшчэ чацвёра фашыстаў. Астатнія ў паніцы разбегліся. Кузняцоў нахіліўся да мёртвага маёра і забраў свае дакументы.

Белаў ужо ўключыў матор. Машына чакала.

— Кідай машыну! — крыкнуў яму Кузняцоў. — У лес!

Гэта было адзінае выйсце.

Яны ішлі лесам некалькі гадзін і нарэшце наткнуліся на фурманку. Фурман быў адзеты ў форму паліцая.

— Вязі! — крыкнуў Кузняцоў, улезшы на фурманку.

Паліцай, убачыўшы накіраваны на яго пісталет, не ўпіраўся. Фурманка рушыла.

Кузняцоў разлічваў знайсці атрад у Ганавічаскім лесе. На трэція суткі бясплодных пошукаў разведчыкі сустрэлі яўрэяў - бежанцаў. Убачыўшы гітлераўскага афіцэра, яўрэі кінуліся ўцякаць.

— Стойце! — крыкнуў Камінскі. — Мы свае! Стойце!

Але бежанцы толькі прыспешылі крок. Давялося кінуцца за імі наўздагон.

Упэўніўшыся, што яны маюць справу з савецкімі



 

# УМЕЮЦЬ ЖЫЦЬ

Каб у кожнай вёсцы так жылі і гаспадарылі сяляне як у Новаберазове, дык было б гэта агромным дасягненнем. Раю паехаць у гэту вёску і пазнаёміцца з яе людзьмі і з іх жыццём.

### КАНТРАКТАЦЫЯ ТРАЎ

Сяляне Новаберазова многа рассяваюць на сваіх палях мінеральных угнаенняў, добра апрацоўваюць зямлю і яна за гэта іх багата ўзнагароджвае. У гэтай вёсцы гаспадары займаюцца яшчэ адной галіной, якая прыносіць ім вялікія даходы. Яны кантрактуюць травы, дакладней, кантрактуюць насенне траў. У Новаберазове жыве Антон Тарасевіч, спецыяліст ад вырошчвання розных гатункаў траў. Ад яго навучыліся многія аднавяскоўцы. І цяпер яны такама кантрактуюць травы. Вось, напрыклад, Іван Петручук закантрактаваў 1,5 га травы гатунку стокалосай - безасотнай. За кілаграм насення, як ён сам сцвярджае, атрымае па 60 зл. Ды многа добрай пашы будзе з яе.

Уладзімір Бурачук закантрактаваў 1 га травы гатунку віхліна балотная. Мікола Ільяшук і Аляксей Ільяшук закантрактавалі па 1 га травы гатунку кубкоўка. Ды многія гаспадары ў Новаберазове кантрактуюць травы і здаюць па 100 і больш кг насення.

### ДАХОДЫ З ПРОДАЖУ МАЛАКА

Продажа малака ў Новаберазове прыносіць асноўны даход гаспадарам. Тут вельмі вялікую ўвагу звяртаюць на кармленне кароў.

— Калі добра пакорміш, дык і добра надоіш, — кажуць у Новаберазове. І сапраўды, многа там надойваюць малака. У Івана Кіцаля дзве каровы. Штодзённа прыносіць ён да млечара 25—28 літраў малака. Сяргей Аўласюк мае адну карову і штодзённа прадае дзяржаве 15 літраў малака. Зараз здае найбольш, бо 35—38 літраў малака, Сямён Бірылка. У красавіку ён атрымаў за малако 2 800 зл. Многа грошай штогод за малако атрымлівае Пётр Лабаноўскі, Аляксандр Мароз і іншыя. Кожны месяц вёска прадае дзяржаве каля трыццаці, а ў некаторых месяцах больш трыццаці тысяч літраў малака. У год сяляне Новаберазова атрымоўваюць за малако каля мільёна злотых даходу.

У мінулым не было збыту на малако. А вазіць у Гайнаўку, стаяць з ім на рынку і доўга чакаць на пакупшчыкаў было вельмі цяжка.

### ЗУСІМ ІНАКШ ЦЯПЕР

Змяніўся час. Народная ўлада стварыла магчымасці для заможнага і культурнага жыцця ў вёсцы. Кожную пятніцу ў Новаберазове прыязджае кінаперасоўка. Пасля вайны ў вёсцы пабудавалі гаспадары 30 новых прыгожых дамоў і шмат гаспадарскіх будынкаў. Зніклі амаль ужо саламяныя стрэхі. Іх маюць толькі 3 хаты. Праведзена тут электрыфікацыя і радыёфанізацыя.

Вельмі высока ўзнялася асвета ў вёсцы за гады народнай улады. У Новаберазове стала працаваць сямікласная школа. За санацыйнай Польшчы толькі некалькі чалавек скончыла 7 класаў. А зараз уся моладзь мае закончаную поўную пачатковую школу. 35 асоб скончыла і канчае сярэднія школы, 9 чалавек закончыла вышэйшыя школы, а 4 асобы яшчэ вучацца ў вышэйшых установах.

Людзі сталі жыць заможна і культурна. Ужо ў вёсцы больш 20 матацыклаў. У многіх сялян ёсць радыёпрыёмнікі і прыгожая мэбля.

### НОВЫЯ БУДОВЫ

У Новаберазове нядаўна пабудавана памяшканне для сядзібы Прэзідыума ГРН. Запланавана ў гэтым годзе пабудаваць выгодную вясковую краму, а таксама распачаць будову вялікага клуба. У Новаберазове будзе пабудавана агранамоўка. Усе гэтыя будовы ў значнай меры будуць апірацца на грамадскіх чынах.

Пройдзе яшчэ некалькі год і вёска стане больш прыгажэйшай, у ёй паявіцца некалькі неабходных будынкаў грамадскага прызначэння.

(мх)

# НАПЕРАКОР ПЕСІМІСТАМ

Гайнаўская моладзь, згуртаваная ў радах Саюза сацыялістычнай моладзі, імкнецца культурна і атракцыйна праводзіць вольны ад працы час. Але, каб дабіцца гэтага, трэба кшталтаваць свой эстэтычны ўзровень, разумець значэнне сяброўскіх суадносін, выхоўваць высакародныя пачуцці, коратка кажучы, быць дастойным звання члена ССМ. Гэтаму, у прыватнасці, спрые Вечаровая школа актыву ССМ у Гайнаўцы. Яна працуе ўжо трэці год. Зараз школа жыве радасным, маладым жыццём. Заняткі ў ёй карыстаюцца папулярнасцю. Маладыя людзі імкнуцца тут як мага лепш правесці час. Спеў, танцы, таварыскія гульні — усё гэта ўносіць прыемнае ажыўленне, здаровы фермент і радасць жыцця.



Лектар Вечаровай школы актыву ССМ у Гайнаўцы, др. Яновіч, абмяркоўвае з кіраўніком гэтай школы, Антонам Семенюком, план школьных занятак.

Зараз у школьных занятках прымае таксама актыўны ўдзел моладзь,



Спеў, музыка і іх аматары.

згуртаваная ў Саюзе сялянскай моладзі. Гэта пераважна вучні і вучаніцы Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы. Тут асабліва вылучаюцца таленавітыя салісткі, Марыся Харкевіч і Люба Петручук. Іх мілагучныя галасы карыстаюцца сярод наведвальнікаў школы вялікім поспехам.

Гэты кароткі артыкул аб жыцці гайнаўскай моладзі хай дапоўняць здымкі Вашага фотакарэспандэнта, М. Тарасевіча.



У рытме вальса..



Чарговы пункт мастацкай праграмы ўсім спадабаўся.

* * *

# АЎТАРСКІЯ СУСТРЭЧЫ Ў ДНІ АСВЕТЫ

Павятовая бібліятэка ў Беластоку 2—7 мая г. г. у Дні асветы кніг і друку наладзіла сустрэчы сваіх чытачоў з Віктарам Шведам.

Паэт выступіў са сваімі вершамі перад насельніцтвам Гарадка, Зубкоў, Фальваркаў Тыльвіцкіх, Ялоўкі і Юшкавага Груда. Сустрэчы былі ўдалымі. Нягледзячы на палявыя работы, людзі ахвотна прыходзілі паслухаць вершаў на роднай мове. Напрыклад, вясковая хата ў Зубках не магла змясціць вялікай колькасці людзей, якія прыйшлі на сустрэчу. Размясціліся яны і ў другім пакоі, і ў кухні, і ў сенцах, а нават пад вокнамі на панадворку. Знайшлося тут некалькі зусім старэнькіх бабулек.

Там, дзе ў падрыхтоўку сустрэч у дапамогу мясцовым бібліятэкарам уключыліся настаўнікі, эфекты былі надзвычайныя. Ці ж можна забыць такую вялікую імпрэзу, якая адбылася вечарам, 6 мая г. г., у Ялоўцы? У абшырнай залі прыгожай мясцовай школы сабралося каля 200 людзей. Прыйшлі сюды і ўсе настаўнікі. Пасля выступлення В. Шведа адбылася надта ўдалая мастацкая частка ў выкананні школьнай моладзі. Нягледзячы на тое, што ў школе не навучаецца беларуская мова, праграма ў выкананні школьных артыстаў была амаль выключна беларуская. Прысутныя ў залі горача ўспрымалі ў выкананні школьнага хору меладычныя беларускія народныя песні: «Скажы, мая куманька, як жывеш», «Ой ляцелі гусі з броду», «Каля рэчкі, каля броду», а таксама несмяротную «Лявоніху» ў выкананні танцавальнай групы.

Дэкламаваліся тут беларускія і польскія вершы. Найлепшым дэкламатарам аказалася надта бадзёрая першакласніца, Галена Лібэрская, якая выканала верш «Ваякі». Многа смеху выклікалі беларускія скетчы ў выкананні школьнай і дарослай моладзі.

Падрыхтоўка так цікавай мастацкай часткі з'явілася заслугай кіраўніка школы ў Ялоўцы, Яська Аляксея, настаўніц — Надзеі Дарашкевіч, Тэрэсы Сітаж, Аліны Зубрэвіч, а таксама мясцовага бібліятэкара, Мечыслава Рыгаровіча.

Трэба адзначыць, што сябра Рыгаровіч, як адзіны бібліятэкар — мужчына ў Беластоцкім павеце, патрапіць добра супрацоўнічаць і з настаўнікамі, і з дарослай моладдзю Ялоўкі, а таксама суседніх вёсак і таму можа пахваліцца добрымі вынікамі сваёй працы. У яго шмат чытачоў, ён прымае ўдзел у мастацкай самадзейнасці, знаходзіцца ў кіраўніцтве мясцовай пажарнай каманды і выконвае яшчэ шмат іншых грамадскіх абавязкаў. Сапраўдны бібліятэкар і адначасова грамадскі дзеяч.

Ва ўсіх мясцовасцях, у якіх адбываліся аўтарскія сустрэчы, былі наладжаны выстаўкі беларускіх кніжак. Сустрэчы зрабілі незабыўнае ўражанне на Віктара Шведа і яго слухачоў, якія прасілі, каб паэт наведваў іх часцей. Ш.

# ЯМУ ЎЖО ПЯЦЬ ГОД

(Працяг са стар. 1)

Калектыў для яго членаў стаў другой сям'ёй. Напрыклад, Вера Кавальчук, Марыся Сакоўская, Оля Фёдараў, Валодзя Пучынскі, Коля Іванюк, Жэнька Матвеюк, Сяргей Плева, Валодзя Клімюк не расстаюцца з ім ад пачатку яго заснавання. Моладзь у калектыве не толькі цесна пасябравала, але і пажаніліся некаторыя (Жэня з Нінай, Коля з Оляй, Тамара з Віктарам, Барыс з Валяй).

— Да калектыву прывязала мяне, як зрэшты і ўсіх нас, любоў да роднай песні, — сказала Марыся Сакоўская, адна з тых, што ад пачатку звязаліся з калектывам. — Без хору цяпер я сабе ўвогуле не ўяўляю жыцця.

Так. калектыў яшчэ малады, — яму ўсяго ПЯЦЬ год. Але ён урос у глебу Беласточчыны.

Жадаем тады яму наступных, яшчэ больш слаўных юбілеяў, тысяч новых песень і танцаў, якія, быццам цудоўныя кветкі, хай слаўяць дружбу, мір і наш беларускі люд.

В. Р.

 

### З жыцця БГКТ




У папярэднім нумары пісалі мы аб святкаванні пятай гадавіны Варшаўскага аддзела БГКТ. Сёння змяшчаем здымак з мастацкай часткі. Выступае хор з Ляшукоў.

Фота: Мікола Сівіцкі

**ЧЫТАЧЫ ПЫТАЮЦЬ — РЭДАКЦЫЯ АДКАЗВАЕ**

# ЦІ МОЖНА ЗАВЕСЦІ ПАРОДЗІСТЫЯ СВІННІ?

У нашым ваяводстве свінагадоўля найчасцей абапіраецца на змешаных пародах. Аб гэтым без цяжкасцей пераканаецца кожны гаспадар, калі паглядзіць на свіней у сваіх суседзяў ва ўсёй вёсцы. Правільнае развіццё свінагадоўлі ў многім залежыць ад пароды свінней. На аснове назіранняў і доследаў дойдзена да вываду, што ў нашым ваяводстве існуюць найлепшыя ўмовы для двух парод свінней: вялікай белай і белай звіславухай. Таму Ваяводская станцыя ацэны ўжытковай і гадаўлянай вартасці рэкамендуе для распаўсюджвання толькі гэтыя дзве пароды; вялікая белая рэкамендуецца для паўднёва - заходніх паветаў ваяводства, а для астатніх паветаў — белая звіславухая.

На Беласточчыне існуе ўжо некалькі свінафермаў пародзістых свінней. Зарадовыя свінафермы, у якіх гадуецца парода вялікая белая, існуюць пры Сельскагаспадарчым тэхнікуме ў Чартаеве, каля Сямяціч і пры Сельскагаспадарчай навукова - даследчай станцыі ў Шэпетове (Высока - Мазавецкі павет). Затым аб прыватнай гадоўлі гэтай пароды свінней можна даведацца ў Бельскім павеце (звярнуцца да павятовага агранома). Зарадовыя свінафермы пароды белая звіславухая існуюць у Рускай Всі і Завадах, пав. Элк, пры Сельскагаспадарчым тэхнікуме ў Алецку і Сельскагаспадарчым тэхнікуме ў Ружаным Стоку, пав. Дуброва, пры Сельскагаспадарчай даследчай станцыі ў Сейніку, каля Алецка, а таксама прыватная гадоўля свінней гэтай пароды ў вёсцы Казімерове, каля Міхалова.

Пародзістыя свінаматкі можна купіць, складаючы заказ у аддзеле Сельскай гаспадаркі павятовай рады. Калі разыходзіцца аб цану, дык свінаматкі вагой ад 50 да 100 кг каштуюць ад 2 да 3 тыс. зл. (19,10 зл. за 1 кг жывой вагі плюс т. зв. гадаўляны дадатак ад 300 да 600 зл., у залежнасці ад агульнай вагі). На пакупку пародзістых свінаматак спулдзельчыя гмінныя касы пры ГС-ах прызначаюць доўгатэрміновую пазыку (да 3 тыс. зл.). Пазыку можа атрымаць кожны гаспадар, калі адказвае ўмовам, на якіх прыдзяляецца пазыка. Купленыя свінаматкі дастаўляюцца кліенту на месца.

Жадаючыя купіць пародзістую свінаматку могуць выбраць адпаведную на месцы ў ферме пародзістых свінней. Таму мы падалі месцы, дзе знаходзяцца зарадовыя свінафермы. Свінаматкі можна купляць таксама непасрэдна ў зарадовых фермах. Калі ідзе аб кнуроў, дык іх можна набываць толькі за веданнем аддзелаў сельскай гаспадаркі павятовых радаў. (мк)



Свінаматкі ў зарадовай ферме Дзяржаўнага гадаўлянага асродка ў Рускай Всі, Элцкі павет.

**СЛЕДАМ НАШЫХ ІНТЭРВЕНЦЫЙ**

# ХВАРОБА НЕ ПАЧАКАЕ

Юльян Цесляк з'яўляецца фельчарам. Належыць ён да гэтага слоя маладой інтэлігенцыі, якая працу на вёсцы, далёка ад гарадскіх цэнтраў і дасягненняў сучаснай культуры не лічыць як няшчасце ў злую мінуту насеўшае на чалавека. Найлепш аб гэтым хіба сведчыць факт, што Юльян Цесляк дабраахвотна, па ўласнай ініцыятыве, вырашыў пакінуць нядрэнна платную працу ў сталіцы польскага тэкстыльнага промыслу — ў Лодзі і пераехаў на Беласточчыну, аб якой, як вядома, у цэнтральнай Польшчы ідзе яшчэ ненайлепшая слава.

Зараз Юлян Цесляк загадвае асродкам здароўя ў Малінніках (Бельскі павет). Гэты асродак абслугоўвае шмат вёсак.

— Да мяне, — апавядае малады фельчар, — прыязджаюць хворыя з вёсак за дзесяць кіламетраў адсюль. Але пабываць толькі ў лекара — яшчэ мала. Хваробу, як вядома, трэба лячыць, а да гэтага патрэбныя розныя лякарствы. У мяне іх няма, бо забаронена прадаваць лякарствы ў асродку здароўя. Трэба тады за найпрасцейшым лекам адпраўляцца ў Бельск, у Орлю, ці ў Кляшчэлі. Такім чынам трацяцца два дні: адзін на пабыўку ў лекара, а другі — у пошуках лякарства. А хвароба, вядома, не чакае.

Да гэтых слоў фельчара няма чаго і дабаўляць. Юльян Цесляк не абмежаваўся толькі да сцвярджэння адмоўнага становішча. Ён распачаў дамагацца ад Грамадскай рады ў Грыгароўцах і Аддзела здароўя пры Павятовай радзе ў Бельску Падляшскім наладжання аптэчнага пункту пры асродку здароўя ў Малінніках, каб хворыя, прыязджаючы да лекара, маглі на месцы адначасова купіць лякарствы. Мясцовыя і павятовыя ўлады прыхільна аднесліся да намаганняў фельчара.

І тут распачалася папярковая блытаніна. Ад першых дзён сакавіка да паловы мая паперкі вандравалі з Грамадскай рады ў Грыгароўцах і з Бельска ў Беласток, а з Беластока ў Грамадскую раду і ў Бельск.

Тымчасам сітуацыя сталася яшчэ больш крытычнай. Аптэка ў Орлі змушана была спыніць сваю дзейнасць, бо стары аптэкар адышоў на пенсію, а новага спецыяліста трудна знайсці. Ад 15 сакавіка павіс замок і на дзвярах аптэкі ў Кляшчэлях. Аптэкарша адышла на мацярынскі водпуск.

— Паводле пастаноў Міністэрства здароўя, адна аптэка, — паясняе Юльян Цесляк, — павінна прыпадаць на 10 тыс. жыхароў у дадзеным раёне. На Бельшчыне на адну аптэку прыпадае амаль... два разы столькі. Цяпер, калі замкнуты аптэкі ў Орлі і Кляшчэлях, тутэйшаму насельніцтву за кожнай дробяззю трэба адпраўляцца аж у Бельск, траціць час і грошы.

Беластоцкае праўленне аптэкамі адказала коратка: у Малінніках не можна наладзіць аптэчнага пункту, бо да бліжэйшай аптэкі ў Орлі (якая стаіць пад замком) толькі 5 кіламетраў, а паводле пастаноў Міністэрства здароўя нельга арганізаваць аптэчнага пункту там, дзе адлегласць да бліжэйшай аптэкі меншая за 5 км.

Невядома, як прадстаўнікі названага праўлення мерылі гэтую адлегласць. Напэўна яны ніколі нават не праязджалі дарогай з Орлі ў Маліннікі, бо каб туды выбраліся, дык тады маглі б пераканацца: там многа больш за 5 км, а пасля дажджу, або падчас асенне-вясенніх растопаў не пройдзеш там, не праедзеш. Забылі таксама, што ў гэтым раёне ёсць шмат вёсак, з якіх да бліжэйшай аптэкі 10 і больш кіламетраў (напрыклад, Вулька Выганоўская, Маскеўцы, Дыдулі, Пашкоўшчына).

— Аптэка ў Кляшчэлях знаходзіцца ўжо на тэрыторыі Гайнаўскага павета, — далей паясняе фельчар, — і таму неахвотна прадае лякарствы маім пацыентам, асабліва на бясплатныя рэцэпты і з 70-ці працэнтавай ільготай, бо зараз усе раённыя аптэкі працуюць на бюджэце павятовых радаў і зразумела, што адна рада не хоча са сваёй кішэні дакладаць да коштаў суседкі.

Прыглядаючыся цярпенню хворых, я не магу спакойна памірыцца са становішчам Беластоцкага праўлення аптэкамі. Хваробы не чакаюць, а я ўжо два месяцы чакаю на дазвол наладжання аптэчнага пункту пры нашым асродку. Дзеля гэтага ёсць у нас усё неабходнае: ёсць каму заняцца гэтым пунктам, ёсць і памяшканне.

Мгр Міхальскі з Беластоцкага праўлення аптэкамі доўга выясняў прадстаўніку рэдакцыі, чаму ў Малінніках не можа быць аптэчны пункт, намагаючыся апраўдаць сваю пазіцыю. Калі аднак усе яго аргументы сустрэліся з грунтоўным адпорам, мгр Міхальскі бязрадна разлажыў рукі.

— Гэта не толькі ад нас залежыць, — сказаў ён. — Калі аддзел здароўя пры Ваяводскай радзе дазволіць нам наладзіць там аптэчны пункт, тады чаму ж не — можам яго там абсталяваць.

Трэба было схадзіць у Ваяводскую раду. Старшы інспектар па справам аптэк, мгр Васелеўская, даведаўшыся па якой справе прышоў журналіст, заявіла:

— Мы ўжо разглядалі гэтую справу. Няма патрэбы закладаць аптэчны пункт у вёсцы Маліннікі, бо там блізка да Орлі...

Трэба было і тут раз'ясняць усё ад пачатку... Урэшце мгр Васелеўская абяцала заняцца гэтым паўторна.

Прайшло яшчэ некалькі дзён і адзін з тэлефонаў прынёс у рэдакцыю прыемнае паведамленне: у Малінніках будзе наладжаны аптэчны пункт.

І каму была патрэбная гэта амаль трохмесячная паперковая блытаніна?!

**Вуэр**

# ЯШЧЭ МОЖНА ПАСПЕЦЬ

Да 15 чэрвеня яшчэ ідзе прыём заяў у прафесіянальныя школы і тэхнікумы. Калі хто з вас, сямікласнікі, яшчэ не вырашыў, куды падацца пасля заканчэння школы, уважліва прачытайце па даныя адрасы некаторых школ і спецыяльнасці, якія можна атрымаць па заканчэнню школы.

**1. Zasadnicza Szkoła Zawodowa, Hajnówka, ul. Stalina 15/17.**

Ёсць інтэрнат. Школа рыхтуе столяраў, слесараў і токараў.

**2. Zasadnicza Szkoła Zawodowa, Ełk, ul. Armii Czerwonej 1.**

Ёсць інтэрнат. Школа рыхтуе электраманцёраў, слесараў і токараў.

**3. Zasadnicza Szkoła Budowlana, Choroszcz, ul. Białostocka 28.**

Ёсць інтэрнат. Школа рыхтуе столяраў і цесляроў.

**4. Zasadnicza Szkoła Metalowa, Łomża, ul. Senatorska 9.**

Ёсць інтэрнат. Школа рыхтуе слесараў, бляхароў і механікаў для машын і трактараў.

**5. Zasadnicza Szkoła Mechanizacji Rolnictwa, Michałowo, ul. Leśna 1, pow. Białystok.**

Ёсць інтэрнат. Школа рыхтуе механікаў для сельскай гаспадаркі.

**6. Zasadnicza Szkoła Odzieżowa CZSP, Suwałki. ul. 23 Października 26.**

Пры школе ёсць інтэрнат. Школа рухтуе краўцоў жаночага і мужчынскага крою і рымароў.

А вось адрасы некаторых тэхнікумаў:

**1. Technikum Leśne ML i PD. Białowieża, pow. Hajnówka.**

Ёсць інтэрнат. Напрамак — лясніцтва.

**2. Technikum Przemysłu Mleczarskiego. Białystok, ul. Dąbrowskiego 28.**

Ёсць інтэрнат. Напрамак — тэхналогія вырабу малочных прадуктаў.

**3. Technikum Geodezyjne. Białystok, ul. Lipowa 35.**

Ёсць інтэрнат. Напрамак — геадэзія.

**4. Technikum Budowlano-Drogowe. Białystok, ul. Dobra 1.**

Ёсць інтэрнат. Напрамак — чыгункі і масты.

**5. Technikum Gospodarcze. Białystok, ul. Proletariacka 8.**

Ёсць інтэрнат. Напрамак — гаспадарка.

**6. Technikum Ekonomiczne, Białystok, ul. Warszawska 63.**

Пры школе ёсць інтэрнат. Напрамак — гандаль, эканоміка прамысловасці.

**7. Technikum Mechanizacji Rolnictwa MR. Supraśl, pow. Białystok.**

Ёсць інтэрнат. Напрамак — механізацыя сельскай гаспадаркі.

Больш дакладныя інфармацыі можна атрымаць непасрэдна ад школы або псіхалагічнай парадні ў Беластоку, вул. Варшаўская 63.



 

# ПЛЕМЯННЫЯ ЗНАКІ

Салдаты розных армій адрозніваюцца сваёй ваеннай формай. А вось паасобныя плямёны ў Судане, не носячы ніякага адзення, робяць знакі на ўласнай скуры. Амаль усе мужчыны робяць сабе на твары надрэзы і шрэмы, форма якіх як паспарт, гаворыць аб прыналежнасці да таго ці іншага племені. Надрэзы робяць тады, калі юнак робіцца мужчынай. Восенню, калі сабраны ўраджай і ў лесе паспелі фрукты і ягады, а каровы даюць многа малака, у племені нуэраў пачынаюцца .вяселлі і памінкі. Нават, калі чалавек памёр некалькі месяцаў таму назад, пахаванне адзначаюць восенню.

Самае вясёлае свята — гэта пасвячэнне юнакоў у мужчыны. «Уладыка стада» загадвае біць у барабаны і ўсё племя збіраецца ў назначаным месцы. Мужчыны ўжо правялі калектыўнае паляванне і магчыма ім пашчаслівілася здабыць жырафу, газелю, антылопу, а то і бегамота. Жанчыны падрыхтавалі прасяное піва. Па знаку правадыра пачынаецца свята; танцы праходзяць тры дні з невялікімі перарывамі для адпачынку.

Усіх юнакоў 14—15-гадовых збіраюць разам і спецыяльны «хірург» наносіць ім на ілбу шэсць доўгіх глыбокіх надрэзаў. Гэтая балючая аперацыя, як правіла, робіцца каменным нажом пад шум і крыкі аднапляменнікаў. Такое цяжкае выпрабаванне юнакі павінны перанесці з гонарам і дастоінствам воіна.

Пасля, іх пасяляюць у спецыяльна падрыхтаваныя хаціны, раны пасыпаюць попелам і прыкладваюць да іх лекавыя травы. Праходзіць некалькі тыдняў і калі раны зажывуць, свята зноў пачынаецца. Бацька ўручае тады быка, кап'ё і шчыт. Сваякі даюць розныя ўпрыгожанні — кольцы, браслеты. Ад гэтага часу юнак становіцца мужчынай, воінам, паляўнічым, пастухом.

У нуэраў усе важныя справы вырашаюць самыя старыя і вопытныя людзі. Баяцца нуэры найбольш сваіх калдуноў і жрацоў і вераць што ў іх пасяляюцца ўсе магутныя духі.

Адзенне суданцаў складаецца з пары тапачак, не лічачы кольцаў і пацёрак. Бывала так, што за пару гумавых пантофляў купцы атрымоўвалі скуры кракадзілаў, драпежных звяроў, здабытых з вялікай рызыкай для жыцця.

У краіне распаўсюджаны хваробы так шырока, як галеча, а медыцынская дапамога такая мізэрная, як асвета.

Больш палавіны стагоддзя англійскія каланізатары распараджаліся лёсам Судана і яго насельніцтвам.

## 60 СЕКУНД у СССР

Адна мінута... Велічыня як быццам зусім невялікая — 60 секунд.

За мінуту ў СССР выплаўляецца больш 130 тон сталі, пракатваецца больш 100 тон металу, здабываецца з нетраў зямлі каля 310 тон нафты, каля 280 тон жалезнай руды і 970 тон вугалю, выпрацоўваецца 620 тысяч кілаватгадзін электрычнай энергіі.

Кожную секунду выходзіць 28 пар абутку. Адна гадзіна работы гэтых фабрык абяспечыць сваёй прадукцыяй 100-тысячны горад.

За адну мінуту выпускаюцца 2 аўтамабілі, 1 трактар, будуюцца 4 памяшканні, вырабляецца 2 200 штук трыкатажных вырабаў і атрымоўваецца 15 тысяч кг мяса.

За адну мінуту прадукуецца 100 гадзіннікаў, звыш 6-ці фотаапаратаў і звыш 6-ці тэлевізараў.



Адзін з найбольшых у Еўропе тэлескопаў сістэмы Шмідта ў астрафізічнай абсерваторыі Акадэміі навук Арменіі.

АБ ЧЫМ ДОБРЫ ГАСПАДАР ВЕДАЦЬ ПАВІНЕН

## АПРЫСКІВАЧЫ

Барацьба са шкоднікамі і хваробамі раслін з'яўляецца адным з важнейшых заданняў у сельскай гаспадарцы.

Падаем найбольш прыдатныя ў нашых умовах тыпы апрысківачаў, якімі пры застасаванні ў іх адпаведных хімічных сродкаў знішчаюцца шкоднікі.

**Апрысківач** «Ort-3 Rex» — прадукцыя — Lubelskie Zakłady Sprzętu Rolniczego i Ochronnego.



Гэты 50-літравы апарат прымацоўваецца да агуменевага кола. Можна ім апрысківаць і бяліць таксама пладовыя дрэвы.

**Апрысківач** «Ор-20» (на здымку) адзін з лепшых ручных апрысківачаў. Прадукуюць Wrocławskie Zakłady Metalurgiczne. Вадкасць выпіраецца з яго пры дапамозе ручной помпы. Апрысківач змяшчае 14 літраў.

**Апылячч** «Grom» — добры асабліва ў барацьбе са стонкай і другімі раслінными шкоднікамі. Гэта прылада 2-конная. Раздзьмухвае на шырыню 6 м.

вл.

## ВАЙНА СУПРАЦЬ ГРАДУ

Штогод град нішчыць на палях нашай краіны столькі збожжавых культур, што іх вартасць у сярэднім дасягае сумы 200 мільёнаў злотых. Ці ж не знайшоўся б спосаб, пры дапамозе якога можна было б вызваліць сялян і дзяржаву ад гэтага няшчасця?

Гэткае пытанне паставіў сабе малады польскі вучоны мгр Чэслаў Казмінскі і распачаў навуковыя пошукі.

### ГРАД ЛЮБІЦЬ ТЫЯ САМЫЯ ДАРОГІ

Асноўным вынікам прац мгр Ч. Казмінскага было сцвярджэнне, што град неаднолькава часта наведвае розныя раёны Польшчы. Ён мае шляхі, якія асабліва «любіць». Найчасцей, паводле Казмінскага, град наведвае паўднёвыя ваяводствы. Даказаў ён таксама, што град у нашых умовах на той самай тэрыторыі не выступае прыпадкова, а наглядаецца ў яго паданні нейкая цыклічнасць. Гэтыя сцвярджэнні ў спалучэнні з дасягненнямі метэаралогіі (навукі аб надвор'і) дазволілі распрацаваць сістэму, якая дала б магчымасць заўчасна прадказваць набліжэнне градовай буры ў дадзеным раёне краіны.

Якая аднак канкрэтная карысць з таго, што заўчасна будзе вядома аб градабіцці, напрыклад, у Сямяціцкім павеце? Град зробіць жа сваё. І тут узнікае другое пытанне, якое трэба было распрацаваць: як не дапусціць да градабіцця? Або інакш кажучы: як «разагнаць» градовыя хмары?

### ПРЫКАЗ: СТРАЛЯЦЬ!

Над гэтай праблемай ужо шэраг гадоў працуюць найлепшыя вучоныя амаль цэлага свету. Яны дайшлі да вываду, што нейкія хімічныя спалучэнні ёду і серабра нават у невялікай колькасці маюць «моц» «разагнання» хмар. Толькі як гэтыя сродкі даставіць да хмар? Напрыклад, у Савецкім Саюзе для гэтага ўпатрабляюцца нават ракеты, якімі кіруюць пры дапамозе радыёхваль.

Калектыў інжынераў са Шчэціна апрацаваў польскую «гармату» для выкідвання ёда - сярэбраных «снарадаў», разганяючых градавыя хмары. Кошт гэткай «гарматы» — 10 тыс. злотых. Запускаюць гэтыя «снарады» ў чыстае неба за чатыры гадзіны перад з'яўленнем градавай хмары. Ёда - сярэбраныя «снарады» аказваюць прафілактычнае ўздзеянне.

Мгр Чэслаў Казмінскі апрацаваў план абароннай акцыі перад градам для тых раёнаў Польшчы, у якіх найчасцей сустракаюцца градавыя буры. Абаронную лінію будзе складаць 35 «супрацьградавых гармат» і адна радарная ўстаноўка для прадсказвання градавых бур. Усе кошты гэтага вельмі патрэбнага прадпрыемства будуць складаць усяго ледзь 2 працэнты затрат ад граду.

Зараз на фронце вайны з градам праводзяцца толькі вопытныя спробы. Аднак не доўга прыйдзе нам чакаць, калі з прыходам лета ў нейкіх кутках нашай краіны можна будзе часта пачуць: «Увага, прыказ: страляць да градавай хмары!» А пройдзе дзесятак год і дзеці будуць ведаць, што такое град, толькі з апавяданняў старэйшых і з кніжак

З НАРОДНАЙ МЕДЫЦЫНЫ

## ДЗІВАСІЛ ВЫСОКІ



**Беларуская назва: дзівасіл: девясил, девятисил.**

**Шматгадовая расліна вышынёй 1—1,5 метра, часам да 2,5 метраў.**

**Сцябло простае, з баразнамі, уверсе — галіністае. Лісце вялікае, знізу шэралямцавае, няроўназубчатае; прыкарэневае лісце прадаўгавата-эліптычнае, вострае, сцябловае лісце — сэрцападобнае. Кветкі (кошыкі) вялікія (да 10 см у папярочніку), жоўтыя. Смак каранішча горкі, пах спецыфічны, даволі прыемны. Дзівасіл расце ў сырых хмызняках, на ўзвышаных берагах рэчак, асадліва на мелавых глебах, на ўскраінах лугоў.**

Ён часта разводзіцца на гародах і ў садах. Цвіце дзівасіл з канца чэрвеня да верасня. Збіраюць каранішчы з каранямі ўвосень, пераважна ў кастрычніку. Сушаць у цяню. У народнай медыцыне шырока карыстаюцца ім.

Напар каранішча дзівасіла (20—30 грамаў на адзін літр вады) прымяняецца як унутраны сродак пры вельмі слабай менструацыі, пры вялым страваванні, адсутнасці апетыту, пры коліках. Пры грудных хваробах гэты напар ужываецца з вялікім поспехам для паляпшэння адхарквання. Прымяняюць не толькі настой, напар і адвар, але і парашок з каранішча і каранёў, змешаны з мёдам. Прымаюць на дзень па пяць чайных лыжак.

Пры скураных хваробах, і асабліва каросце, моцным адварам кораня дзівасіла мыюць цела.

Для тых, хто ачуньвае, і слабых — рэкамендуецца (вельмі папулярнае) «дзівасільнае віно», прыкладна па 50 грамаў два разы на дзень. На бутэльку (0,5) партвейна бяруць 12 грам свежага здробленага кораня дзівасілу і зараць у ім 10 мінут.

Калі такі дзівасілавы адвар прыгатаваць на чырвоным віне — кагоры, яго можна прымяняць пры катары кішак і пры паніжанай кіслотнасці страўніка. Прымаюць штодзённа, прыкладна па 50 грам; лепш пасля яды.

Карані дзівасіла захоўваюць у скрынцы, засланай паперай.

ПЯТРУСЬ БРОЎКА

# РАЁННЫ КАВАЛЕР

Скажу вам быль, не плётку,
Пра жоха аднаго.
Дзяўчаты і малодкі
Пабойцеся яго.

Хлапец ён адмыслсвы,
Адзеты — проста шык:
Раённай установы
Адказны кладаўшчык.

Ён ростам невялічкі,
А ў заляцаннях звер,
Таварыш Чаравічка,
Раённы кавалер.



Нічога сабе, ў целе,
Пры вусіках малых,
З брэзентавым партфелем
Вандруе па чайных.

Ён шклянак пяць укіне —
Нямала можа піць!
А вечарам з дзяўчынай
Чарговаю сядзіць.

Абмыўшыся слязою,
Гудзе ў адну дуду:
— Другое я такое
На свеце не знайду!

Прыглядзіцца нябога:
Ну, чым ён не жаніх!
Бо ёсць дурненькіх многа,
Нямала і дурных.



Рашаюць справу шпарка.
Яму ж чаго жадаць —
Каб чарачка, каб скварка,
Каб месца, дзе паспаць.

Клянецца, як прытуліць,
Што да канца жыцця...
Але мінаюць гулі,
З'яўляецца дзіця.

І тата хмурыць вочы,
Гібее ад нуды,
Знікае ён аднойчы
Нявєдама куды.

Другія цягнуць далі,
Прывабныя часы...
А бедная Наталія
Ірве аж валасы.

Слязамі залілася,
Жаніх любімы знік!.
А ён ужо да Касі,
Засмучаны, прынік.

Абмыўшыся слязою,
Гудзе ў адну дуду:
— Другое я такое,
На свеце не знайду!

І Кася разважае:
Ну, чым ён не жаніх!..
Дурненькіх шмат бывае,
Нямала і дурных.

Згаджаецца, бо пецніць...
А ён ніжэй травы,
Каб выпіць, каб заесці,
Каб ложак пухавы.



І гулі і забавы,
А час бяжыць, бяжыць...
І вось дзіця заяву
Дае, што хоча жыць.

Маленькім, невялічкім
Крыкунчыкам ідзе...
А тата Чаравічка
Хмурнее кожны дзень.

І ўжо шукае выйсця
Шукальнік пекнаты,
Нацэліўся кудысьці
І даў ён лататы.

А там глядзіш і трэцій
Гудзе ў адну дуду:
— Другое я на свеце
Такое не знайду.

І хіліцца Агатка,
Бо сэрцайка шчыміць...
Ах, колькі вам, дзяўчаткі,
Ён здолеў наманіць.

Яго мы знаем звычкі.
Дзе ж хлусіць ён цяпер,
Таварыш Чаравічка,
Раённы кавалер?







— Чаму ж цябе так не любяць, мая ты канарэечка?..

«З ПЕРСПЕКТЫВАЙ...»

— Ты чаму пасля школы не застаўся ў вёсцы?
— Ды вось, дзядзька, працу цікавую падшукаў. З перспектывай!




### НАЦІРАННЕ

Адной жанчыне вельмі балелі плечы. Пайшла яна да лекара. Лекар апукаў яе, абслухаў і напісаў рэцэпту.

— Вось гэтым, — кажа ён, — будзеце націраць. Пяройдзе.

На другі дзень жанчына прыходзіць да лекара і кажа:

— Паночку, напішыце мне яшчэ паперку, бо тая зусім сцерлася пры націранні.

**Сяргей Анішчук**
Масева II

### КАЛІ ЛЯЦЕЦЬ НА СОНЦА

Вучань: — Ці можна даляцець да сонца?

Настаўнік: — Не.

Вучань: — Чаму?

Настаўнік: — Таму, што каля сонца вялікая гарачыня,

Вучань: — Дык няхай яны ляцяць ноччу, калі сонца не свеціць.

**Янка Здаиоўскі**
Альхоўка

### ЗА ЦЯРПЛІВАСЦЬ

— За што, дзеду, дастаў гэтыя медалі?

— Першы, за японскую вайну, другі за сусветную, а трэці за цярплівасць.

— Як гэта за цярплівасць?

— А так, за цярплівасць, бо дастаў за тое, што 50 год з бабкай вытрымаў.

**Ніна Каспярук**
Пянькі

### ГОЛАД

— Лявонь, чаго плачаш?
— Бацька памерлі.
— З чаго?
— З голаду.
— Можа хлеба не было?
— Не, хлеб быў, толькі не было чым нарэзаць.

**Лёнік Семенюк**
Крывая

### НАДЗЕЯ

Дзесяцігадовы Ваня гаворыць вечарам малітву.

— Добры Божа, зрабі так, каб Рым быў сталіцай Турцыі, — просіць ён.

— Што ж ты хочаш гэтым сказаць? — пытае маці.

— Я так напісаў у класнай рабоце.

**Мікалай Ільяшук**
Атвоцк

### СУСЕДЗІ

Адна суседка прышла да суседа. Пачалі сварыцца. Яна абгаварыла трох мужчын і пайшла.

На другі дзень суседка ізноў прышла ды кажа:

— Ці вам языкі не баляць?

— Бо мне баліць. Не магу гаварыць, а то яшчэ б пасварылася з вамі.

**Валя Вышкоўская**
Кожына



— Хто з вас канструктар?..




або: цык, цык...




Старанна слінячы алавік, Кастусь выводзіў каліграфічныя каракулі, складаючы ліст: «Завяшчаю старэйшаму сыну, Антошы, сівую кабылу дзядзькі Максіма, дзесяць гектараў зямлі пад лесам, што абрабляе спулдзельня і на вечнае карыстанне перадаю палац князя Любамірскага ў Дайлідах.

Дачцы, Настусі, завяшчаю лысую карову, якую доіць сакратарава жонка і аддаю свіню з парсюком, за якіх дзядзька Максім атрымаў узнагароду на сельгасвыстаўцы. Гэтай жа Настусі дадаю яшчэ швейную машыну, выстаўленую ў вітрыне гэзсаўскага магазіна...».

— Чакай Кастусь, ты ж глупствы пішаш, — заўважыла жонка. — Аддаеш чужыя рэчы, зусім табе не прыналежныя.

— Не я першы...

— Што ты дурак не першы, гэта я ведаю, — адцяла жонка.

— Гэтак жа даволі знатныя людзі рабілі. Чаму ж мне нельга? Напрыклад, Гітлер некалі пісаў: «Факт, што нейкі народ уладае непрапарцыянальна вялікай тэрыторыяй, не абавязвае другія народы згаджацца з гэтым фактам. Нашы разлікі будуць апраўданы, калі мы выканаем задачу павялічэння нашай тэрыторыі на Усходзе...

А боннскі міністр Штраус недаўна заявіў:

«...Адзінае, што можа даць Савецкі Саюз Заходняй Еўропе, — гэта жыццёвыя прасторы...».

Так вось, паводле запавету нябошчыка Гітлера, дзеліць Штраус усходнюю тэрыторыю. Чаму ж я не магу дзяліць усяго таго, што мне падабаецца?

— Толькі дурань можа даўсці да такіх вывадаў. Глупствы пішаш ды толькі. Няма ў цябе маёнтку да падзелу.

— У іх жа таксама няма, а дзеляць чужое, — стаяў пры сваім Кастусь.

— Цьфу на тваю галаў! Зусім чалавек з глузду з'ехаў.

— Калі так, то нашы дзеці нічога не атрымаюць, — заключыў Кастусь, разрываючы напісанае завяшчанне.

Мілыя чытачы! Між намі гаворачы, ніякага нам маёнтку не трэба. Мінулі тыя часы, калі чалавека цанілі па яго маёмасці. Сёння ацэньваюць людзей паводле іх працы для агульнай карысці.

А калі хто не згодны з гэтым і гатоў да смерці змагацца за старую, скрыўленую хатку, таму я магу заілісаць на уласнасць «Палац культуры». Каб толькі быў мір паміж намі.

Дзядзька Лявон